# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№12 (259)

снежань 2023

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”


**У НУМАРЫ:**

### Аліна Ваўранюк: Новы падручнік па беларускай мове неўзабаве трапіць у падляшскія школы

Гэта падручнік для шостага класа пачатковай школы, які называецца “Слова да слова”.

Старонка 3

### У “Бібліятэцы Бацькаўшчыны” выходзіць альбом пра беларускія пахаванні ў свеце

Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў супрацы з выдавецтвам фонду “Камунікат” выпускае грунтоўны альбом-даведнік “Кніга могілак. Беларускія пахаванні ў свеце”, створаны сябрамі Управы БІНіМу Наталляй Гардзіенкай і Лявонам Юрэвічам.

Старонка 2

# ВІНШУЕМ З КАЛЯДАМІ І НОВЫМ ГОДАМ!

Родныя нашы беларусы і беларускі!

Сардэчна віншуем Вас з Калядамі і Новым годам!

Мінулы беларускі год нагадваў папярэдні. Як і летась, у розных краінах свету, што прынялі беларусаў, ладзілася беларускія імпрэзы, курсы ды лекцыі, выходзілі беларускія фільмы і ставіліся спектаклі, гралася і запісвалася беларуская музыка, бачылі свет новыя кніжкі – папяровыя, электронныя і аўдыяфарматныя. Нашых творцаў і грамадскіх дзеячаў няспынна ўганароўвалі самымі рознымі прэміямі. Адчыняліся новыя беларускія школы і класы. Паўставалі новыя беларускія суполкі.

Але вядомы і кошт гэтых здабыткаў. Патэнцыял культурнай працы за мяжой прапарцыйны пашырэнню шэрагаў беларусаў замежжа, а адбываецца гэта сёння не з добрых нагодаў.

У той жа час на нашай агульнай Бацькаўшчыне штодня расце лік беларусаў, якія ахвяравалі свабодай у імя незалежнасці краіны, верхавенства права і элементарнай павагі да чалавечай годнасці. Іх, на жаль, многія тысячы. На дзясяткі пайшоў лік тых, хто заплаціў за нашу агульную будучыню ўласным жыццём. Як і летась, у самой Беларусі нязменна пагаршалася становішча беларускай мовы, яна працягвае быць маркёрам, па якім дзеляць людзей на сваіх і чужых, а падмурак незалежнасці – беларуская культура і гісторыя – падмяняюцца сурагатам.




Беларусам замежжа сёння выпала адказнасць быць крыніцай салідарнасці, дбаць і пра тых людзей з і іх сем’ямі, і пра краіну, якая чакае вяртання многіх з нас. Будучыня нашай Радзімы сёння ў нашых руках, але мы ўжо маем дастаткова досведу, каб ганарыцца іх умеласцю і моцай.

Наша супольная задача – выстаяць, выжыць, павялічыць нашае кола і кампетэнцыі, бо ад гэтага залежыць будучыня Радзімы-Беларусі.

Мы зычым, каб святочныя дні прайшлі для вас у атмасферы любові і сяброўства, якія так важныя для нашага маральнага аднаўлення, а надыходзячы год прынёс добрыя навіны з Бацькаўшчыны!

Будзьма разам! Будзьма беларусамі!

**ЗБС “Бацькаўшчына”**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# У "БІБЛІЯТЭЦЫ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ" ВЫХОДЗІЦЬ АЛЬБОМ ПРА БЕЛАРУСКІЯ ПАХАВАННІ Ў СВЕЦЕ

Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў супрацы з выдавецтвам фонду "Камунікат" выпускае грунтоўны альбом-даведнік "Кніга могілак. Беларускія пахаванні ў свеце", створаны сябрамі Управы БІНіМу Наталляй Гардзіенкай і Лявонам Юрэвічам.




На больш чым 600 старонках змешчаныя каляровыя выявы надмагілляў і біяграмы пахаваных беларусаў і нараджэнцаў Беларусі ў Аўстраліі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Грэцыі, Даніі, ЗША, Італіі, Канадзе, Нямеччыне, Францыі, Чэхіі, Чылі, Швецыі. Гэты дыхтоўны том ёсць вынікам шматгадовай збіральніцкай працы і падтрымкі дзясяткаў зацікаўленых беларусаў з розных краінаў. Кніга выходзіць у серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны".

Паводле ўкладальнікаў, кніга рыхтавалася пяць гадоў, а матэрыялы да яе пачалі збірацца яшчэ ў 1990-я гады.

БІНіМ і аўтары дзякуюць усім, хто дапамагаў збіраць інфармацыю, а таксама прысвячаюць кнігу памяці Вітаўта Кіпеля, які быў захоплены ідэяй яе стварэння і асабіста шмат гэтаму паспрыяў.

bellit.info



навіны

# ВЕРАНІКА КРУГЛОВА АТРЫМАЛА МЕДАЛЬ ДА СТАГОДДЗЯ БНР

У Берліне адбылося ўручэнне Медаля да стагоддзя Беларускай Народнай Рэспублікі выбітнай спявачцы Веранікі Кругловай.

Цырымонія прайшла ў рамках "Менскага форуму", штогадовай міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай стасункам Беларусі з Нямеччынай і Еўрапейскім Саюзам. Рада БНР выказвае падзяку Нямецка-беларускаму таварыству, арганізатару мерапрыемства, за прадстаўленую магчымасць.

Вераніка Круглова – вакалістка гурту "Kriwi", удзельніца многіх яскравых беларускіх музычных праектаў, адна з ключавых фігураў беларускай музычнай сцэны ў часы незалежнасці. Яна атрымала ўзнагароду за свае заслугі ў справе папулярызацыі беларускай культуры.

Медалём да стагоддзя БНР узнагароджаныя 180 беларускіх актывістаў, палітыкаў, грамадскіх і культурніцкіх дзеячоў, а таксама сяброў Беларусі з ліку замежнікаў.

radabnr.org

BEL LIT INFO

літаратура

# СТАЛІ ВЯДОМЫЯ ЛАЎРЭАТЫ ПРЭМІІ "ДЭБЮТ" І ПРЭМІІ ІМЯ КАРЛАСА ШЭРМАНА

1 снежня ў межах Кірмашу гістарычнай кнігі ў Варшаве былі абвешчаныя пераможцы адразу некалькіх літаратурных прэмій: прэміі "Дэбют" імя Максіма Багдановіча, якая выдаецца літаратарам за першую кнігу, і прэміі імя Карласа Шэрмана, якая выдаецца за найлепшыя пераклады.

Прэмію "Дэбют" за 2020 і 2021 гады ў галіне **прозы** атрымала **Таццяна Карытка** за кнігу **"Чаму ўсё так?"** ("Кнігазбор", 2020). Журы адзначыла гэты дэбютны твор "за нетрывіяльную спробу стварэння сацыяльна-псіхалагічнага дэтэктыва".

У намінацыі **"Мастацкі пераклад"** пераможцам стаў **Яўген Папакуль** з перакладам са старажытнаісландскай мовы **"Эды Сноры Стурлусана"** ("Галіяфы", 2021). Журы вылучыла працу перакладчыка "за далучэнне беларускіх чытачоў да скандынаўскай мудрасці".

Таксама былі агучаныя вынікі прэміі для перакладчыкаў імя Карласа Шэрмана асобна за 2021 і за 2022 гады.

### За 2021 год

У намінацыі **"Пераклад паэзіі"** лаўрэатам стаў **Яўген Папакуль** з кнігай **"Эда. Песні пра герояў"** ("Тэхналогія", 2021) "за дзёрзкае пераўвасабленне фундаментальнага твору сусветнай класікі".

У намінацыі **"Пераклад прозы"** найлепшым быў названы **Сяргей Шупа** з перакладам з гішпанскай **"Восені патрыярха"** Габрыеля Гарсіі Маркеса ("Янушкевіч", 2021). Журы адзначыла "бліскучую эквівалентнасць і набліжанасць да аўтарскай задумы".

І ў намінацыі **"Пераклад дзіцячай кнігі"** перамог **Сяргей Матырка**, які пераклаў кнігу Отфрыда Пройслера **"Крабат. Легенда Чорнага млына"** ("Янушкевіч", 2021). Менавіта "глыбокае пачытанне складанай казкі і майстэрскае захаванне міфалагічных элементаў" зрабіла перакладчыка лаўрэатам.

### За 2022 год

У галіне **паэзіі** "за віртуозны падыход да страдаўняй інтымна-рэлігійнай тэматыкі" лаўрэатцтва здабыў **Сяргей Шупа** з перакладам са старажытнагабрэйскай мовы **"Песні песняў"** ("Vesna Books", Прага, 2022).

У **празаічнай** намінацыі "за дасканаласць перадачы мовы надзвычай актуальнага шматпланавага польскага бестселера" прэмію атрымаў **Міхола Раманоўскі**, які пераклаў раман Шчэпана Твардаха **"Кароль"** ("Янушкевіч", Варшава, 2022).

І **спецпрызам** "за смелы перакладчыцкі дэбют" быў адзначаны **Андрэй Строцаў** за перастварэнне твору класіка англійскага фэнтэзі Клайва Стэйплза Льюіса **"Хронікі Нарніі: Прынц Каспіян"**. ("Пазітыў-цэнтр", 2022).

bellit.info

навіны

# Аліна Ваўранюк: НОВЫ ПАДРУЧНІК ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ НЕЎЗАБАВЕ ТРАПІЦЬ У ПАДЛЯШСКІЯ ШКОЛЫ

Гэта падручнік для шостага класа пачатковай школы, які называецца "Слова да слова".

Аліна Ваўранюк, аўтарка і гэтага падручніка, і шэрагу іншых, падзялілася сваім досведам працы і думкамі пра беларускае навучанне.

**– Пачнем са свежай інфармацыі. Як вядома, будзе новы падручнік твайго аўтарства "Слова да слова", падручнік для вывучэння беларускай мовы, ужо для шостага класа. Віншуем. Я толькі прыгадаю, што гэта ўжо пяты падручнік. Першым быў "Лямантар". І гэта было ўжо каля 10 гадоў таму.**

– Здаецца, нават больш.

**– Колькі звычайна часу займае аўтару, каб стварыць падручнік, бо гэта не штодзённая праца, і далёка не кожны настаўнік на штодзень піша падручнік.**

– Я заўсёды паўтараю, што я працавала над падручнікам усё сваё жыццё. І нешта ў гэтым ёсць. Галоўнае, трэба наважыцца на першы. Набраць адвагі. І гэта доўгі працэс. Бо цяжка сказаць, вось гэта праца над падручнікам для шостага класа. Увогуле, калі рабіла чацвёрты клас, то думала, гэта ў чацвёртым класе, а гэта перакіну ў пяты, а вось гэтыя тэмы павінны быць у шостым.




**– То бок, гэта ішло паралельна.**

– Так. Рабіла сабе адразу такі каталог у кампутары, і калі, напрыклад, бачу, вось супертэкст, але не, пяты клас з гэтым не справіцца. О, а гэты павінен быць у шостым. Або, напрыклад, карыстаючыся старымі падручнікамі, быў нейкі тэст, і самыя вучні мне гаварылі: пані Аліна, але супер, а можна, каб гэты тэкст паўтараўся ў новым падручніку таксама. Ёсць такія тэксты, дзе самыя вучні мне падказалі. Бо, і гэта важнае, я гэтыя падручнікі стараюся, і калі ідзе пра літаратуру, і калі ідзе пра граматыку, тэставаць на маіх вучнях. І калі іх гэта цікавіць, то я ведаю, што гэта будзе цікава. І думаю таксама, што гэты мой досвед, што я столькі гадоў працую настаўніцай, то ён дазволіў мне таксама заняцца як раз гэтым.

Яна Запольская, racyja.com

**Lemantar**
(падручнік для 2 класа)

**Kruhahod**
(падручнік для 3 класа)

**Колазварот**
(падручнік для 4 класа)

**Блізкія словы**
(падручнік для 5 класа)

# АБ'ЯДНАННЕ "АБ-БА" ЗЛАДЗІЛА Ў БЕЛАСТОКУ СЯМЕЙНУЮ ВЕЧАРЫНУ

Зімовы час спрыяе, каб людзі па даўняй беларускай традыцыі збіраліся на "вячоркі": пасядзець радком, пагаманіць ладком. У сядзібе Беларускага грамадска-культурнага таварыства Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову "АБ-БА" зладзіла сямейную вечарыну.

Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову "АБ-БА" было зарэгістравана ў траўні 2006 года ў Беластоку. Мэта арганізацыі – усякага кшталту дапамога дзецям і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову на Падляшшы, а таксама дапамога бацькам і настаўнікам.

racyja.com




МОВА НАНОВА РЫГА

# У РЫЗЕ ПРАЦУЮЦЬ КУРСЫ "МОВА НАНОВА"

Прыкладна раз на тыдзень у Латвіі беларусы сустракаюцца на курсах "Мова Нанова".

Моўныя заняткі адбываюцца фактычна ад пачатку бягучага года і збіраюць па некалькі дзясяткаў наведвальнікаў, распавёў адзін з галоўных арганізатараў:

"Амаль год ужо, мы пачалі 1 красавіка. У такім жа фармаце, як і ва ўсіх гарадах. Мы рыхтуем з каляжанкай заняткі, ёсць план. Каб курсы былі не тое, што кожны сам, як жадае, а каб людзі прытрымліваліся нейкага плану".

У Латвіі заняткі "Мова Нанова" можна наведаць па адрасе: Рыга, Pils iela, 21. Мерапрыемствы скіраваныя як на дарослых, так і на дзяцей.

racyja.com



кніга

# Сяргей Харэўскі: МНЕ ВЕЛЬМІ ХАЦЕЛАСЯ Б, КАБ МІНСК БАЧЫЛІ ГОРАДАМ МАСТАКОЎ

Лектар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, мастацтвазнаўца, гісторык архітэктуры і культуролаг Сяргей Харэўскі выдаў ілюстраванае даследаванне "Мінск у мастацтве. Вобразы горада розных эпох", у якім аналізуе творы мастакоў, прысвечаныя сталічным краявідам.

**– Як вам прыйшла ідэя напісаць гэтую кнігу? Я так разумею, Мінск быў горадам вашага юнацтва. Гэтая любоў да горада і яго мясцінаў у вас засталася з таго часу?**

– Мала таго, што я сам нарадзіўся ў Мінску, там нарадзіліся і мае бацькі. А некалькі пакаленняў маіх продкаў былі парафіянамі колішняга касцёла бернардынак, дзе цяпер праваслаўны Духаў сабор і аж да самага майго нараджэння, да канца 1960-х, расцілі хмель для легендарнага бровара, што цяпер завецца "Аліварыя". А ідэя прыйшла падчас працы над кнігаю "Сто твораў XX стагоддзя", яшчэ напрыканцы 1990-х. Я тады звярнуў увагу, што існуе вялікая легенда мастакоўскага Віцебска, але ў Мінску, насамрэч, мастацкае жыццё было нашмат багацейшым. Нагадаю – менавіта ў сталіцы прайшлі школьныя гады Фердынанда Рушчыца. Тут перапляліся лёсы мінскага гімназіста Міхася Кікоіна і хлопца са Смілавічаў Хаіма Суціна. Разам яны хадзілі тут у мастацкую студыю Якава Кругера, а потым разам, праз Вільню, з'ехалі ў Парыж. Дарэчы, Кікоін звёз з сабою з Мінска і нявесту – Розу Бунімовіч. Творцаў, вядомых мастакоў і архітэктараў, чый лёс непасрэдна звязаны з Мінскам – мноства. Сярод іх Леў Альпяровіч і Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, Абрам Бразер і Меер Аксельрод, Язэп Дразовіч і Раман Семашкевіч… Тут скрыжаваліся пакручастыя жыццёвыя шляхі такіх славутых мастакоў, як гадаванца Пражскай і Венскай акадэмій мастацтваў славака Аскара Марыкса, вучня Шагала і Малевіча – фіна Алексантэры Ахола-Вало, якія прысвяцілі сталіцы Беларусі нямала сваіх твораў… І, урэшце, Мінск стаўся галоўным мастацкім цэнтрам Беларусі па вайне, а некаторыя мастакі, жывучы тут, здабылі сабе еўрапейскую славу.

А любоў мая да роднага горада натуральная, безаглядная, без рацыянальных тлумачэнняў. Як і любоў да сваёй сям'і, зямлі, мовы. Я ўсё гэта люблю, бо яно ўсё МАЁ! І нішто мне не заменіць, ніводзін горад свету, Мінска, як нішто ўжо не заменіць майго паходжання, майго дзяцінства, майго першага кахання.

**– Чаму вы абралі менавіта гэтых 14 асобаў? Што для вас было важна пры адборы твораў і творцаў?**

– Сёння мы маем вялікую шматаблічную і шматвобразную традыцыю Мінска ў мастацтве. За апошнія паўтара стагоддзя ў сталіцы Беларусі нарадзіліся, жылі і працавалі тысячы мастакоў! Можна стварыць цэлую энцыклапедыю гісторыі мастацкага жыцця Мінску! Але я не ставіў сабе такое мэты. Я меў на мэце не распавесці пра ўсё-усё, а паказаць эвалюцыю мастацкага мыслення ад ілюстратыўнага падыходу да стварэння і трансфармацыі вобразаў горада, што становяцца ўсё больш разнастайнымі. Таму я адбіраў персаналіі мастакоў, чые творы, на маю думку, стылістычна адметныя для кожнай эпохі і ў чыёй творчасці пошук вобразу Мінска быў паслядоўным, або роля іх асобаў, як напрыклад, Ферыднанда Рушчыца ці Якава Кругера, у гэтым кантэксце была істотнаю. Я імкнуўся пазначыць важныя акалічнасці, падзеі і імёны творцаў, дзякуючы якім Мінск прайшоў у эпоху Найноўшага часу эвалюцыю ад аб'екта вонкавых рэфлексіяў, да ўсё больш глыбокага разумення яго мастакамі. Творцы самі пачалі ствараць гэты горад, надаючы ягоным вобразам усё больш сэнсоўнасці і сімвалічнасці. Мастакоў, насамрэч, магло быць і больш, але ніяк не менш! Бадай, у наступным выданні я ўлічу і крытычныя заўвагі, і выпраўлю некаторыя свае высновы і дадам яшчэ некалькі творцаў. Такія тэксты могуць пісацца бясконца, усё жыццё. Я пісаў гэтую кнігу больш за пяць гадоў. Два гады яшчэ пайшло на падрыхтоўку да выдання і амаль год на рэдактуру і друк! За гэты час ж былі створаны новыя творы, прысвечаныя Мінску, і былі адкрытыя невядомыя раней, старасвецкія! Але часам варта ставіць кропку і выдаваць кнігі, каб дзяліцца ўжо тымі, думкамі, што ўжо ёсць. Каб натхняць іншых.

**– Што робіць вашу кнігу адметнай ад астатніх? Чаму вы можаце параіць мне яе прачытаць?**

– Па сутнасці, гэта першая такая кніга, прысвечаная мастацкім вобразам Мінска ў гістарычнай перспектыве! Першая. Гісторыі розных этапаў мастацкага жыцця ў Мінску прысвечаныя кнігі і артыкулы Леаніда Дробава, Таісы Карповіч, Барыса Крэпака, Надзеі Вусавай, Вольгі Архіпавай. Дзякуючы іх працы былі вернутыя ў наш культурны ўжытак многія імёны і творы. Але дагэтуль яшчэ ніхто не паказваў гісторыю менавіта мастакоўскіх вобразаў Мінска, ад пачатку, ад XVIII да нашых дзён, да XXI стагоддзя. Таму, натуральна, у кнізе ёсць багата цікавостак для аматараў мастацтва. Мне пашчасціла добра ведаць многіх з тых мастакоў, пра якіх я напісаў, чые творы аздобілі гэтую кнігу. З некаторымі сябрую і да сёння. Таму шмат чаго я пісаў непасрэдна з іх словаў! І ад іх атрымаў здымкі твораў. Ужо гэта робіць частку тэкстаў унікальнымі.

**– Як вы думаеце, ці можна сказаць, што Мінск – гэта горад, які не ідзе на кантакт адразу і яго трэба шукаць самастойна? У чым праблема Мінску?**

– Я так не думаю! Мінск ідзе на кантакт адразу, варта толькі выйсці на Прывакзальную плошчу і ўбачыць ягоныя славутыя вежы! Паглядзіце, напрыклад, на мінскую графіку Анатоля Тычыны ці Сямёна Геруса, на карціны Тацціяны Разінай "Вечаровы Мінск" ці Зоі Літвінавай "Мой Мінск"! Не трэба доўга шукаць, мастакі ўжо багата чаго знайшлі!

Іншая рэч, што некаторыя нашыя людзі, камплексуючы, спрабуюць

увесь час параўноўваць і шукаць у нашай сталіцы ці то кавалачкі Вільні, Кіева ці то Берліна ці яшчэ чаго… Але Мінск – гэта Мінск! Ад выпадковых чужых людзей я чуў шматкроць дыфірамбы ў адрас нашае сталіцы! Гэта ўнікальны горад, што імкліва вырас, у 20 разоў, за XX стагоддзе! Такімі тэмпамі і ў такім маштабе не вырас ніводзін горад, ніводная сталіца ў Еўропе! Вось і трэба яго такім прымаць! З плаўнымі выгінамі светлае Свіслачы, з ружанцам цудоўных паркаў, з непаўторнымі архітэктурнымі ансамблямі плошчаў і праспектаў. Няма праблемы Мінска! Ёсць праблема ў саміх беларусах, што ніяк не могуць запаважаць і палюбіць, нарэшце, саміх сябе, сваю краіну, сваю мову. Літоўцы, напрыклад, дамагліся ўключэння архітэктуры міжваеннага Коўна ў папярэдні спіс ЮНЭСКА, але ў Мінску падобнай архітэктуры нашмат больш і куды больш велічнай! Але беларусы гэтага не заўважаюць, і ўсё займаюцца бессэнсоўнымі параўнаннямі… Як пісаў Янка Купала:

*І так жывём, сябе саміх не знаўшы,*
*Учора, сёння лазім між канаў…*

**– Можаце вы сказаць, што ваш твор з’яўляецца (ці можа стаць у будучыні) “будаўнічым матэрыялам” для ідэнтычнасці мінчукоў?**

– Магу! Натуральна, не толькі мая кніга! Але і яна, спадзяюся, кагосьці натхніць на працяг. Мне вельмі хацелася б, каб Мінск бачылі горадам мастакоў! Горадам Валенція Ваньковіча і Фердынанда Рушчыца, Язэпа Драздовіча і Міхася Філіповіча, Уладзіслава Страмінскага і Сафіі Федаровіч, Хаіма Суціна і Мішэля Кікоіна і сотняў іншых выдатных творцаў. Каб ім стаялі помнікі, каб іх творы і іх лёсы былі вядомыя ўсім з дзяцінства, каб нас атачалі плакаты, білборды і муралы з іх карцінамі, каб пра іх іх паказвалі перадачы і здымалі кіно, пісалі вершы! Разам з натуральным, мяккім і пяшчотным, нашым краявідам, са старажытнымі курганамі, у якіх паснулі сотні гадоў нашае гісторыі і дынамічным маладым горадам, што без страху глядзіць у сваю будучыню, каласальная мастацкая спадчына можа стаць падставаю нашае новае ідэнтычнасці! Няхай і мая кніга стане часткаю



падмурку нашае, іншае, будучыні!

**– Як на вашую думку, ці магчыма нам адшукаць сябе праз Мінск? Ці гэтае месца – месца без памяці?**

– Гэта магчыма! І менавіта праз сябе, індывідуальна! Але ўжо не шукаць трэба, а знаходзіць! Вы ж ходзіце ў лес у грыбы, а не дзеля пашуковага шпацыру, дзеля пошукаў? Ёсць мэта – сабраць грыбы – пайшлі і сабралі грыбы! Так і з Мінскам! У беларускай сталіцы можна вымысліць сабе любую ролю. І вымысліць Мінск такім, якім хочаш, каб ён быў! Як у творах Адам Глобуса ці маладой мастачкі Надзеі Леановіч! Гэта з Рымам ці Стамбулам ужо нічога не паробіш, не пазбавішся цяжару агромністых наратываў і стэрэатыпаў. А памяць – гэта не тое, што ў альбомах, ці шуфляда, у камені ці ў мурах, а тое, што ў нашых душах і ў нашых галовах! Тое, чаму нас навучалі ў дзяцінстве, і тое, што мы ведаем з сямейных гісторый. Калі сабраць усе сямейныя гісторыі Мінска хоць бы за апошнія 80 гадоў, то… Гэта і была бы рэальная памяць! Ну, і вырасла, нарэшце ўжо два пакаленні мінчукоў, якія жыва і жвава цікавяцца сапраўднай спрадвечнай гісторыяй нашага горада, што ўсё расце і расце на нашых вачах, поіцца з розных крыніцаў, збіраецца з розных кветак… Гадоў 40 таму мы не ведалі і паловы тае гісторыі Мінска, што ведаем зараз! І ведаць яе не маглі! Бо нямала было прыкладзена высілкаў камуністычнымі ўладамі, каб шмат чаго знішчыць, шмат што зарыць назаўжды! Але праўда ўсё адно прарастае скрозь асфальт і бетон. Горкая праўда пра Курапаты і лёс тутэйшае яўрэйскае Атлантыды. Але і невераемна прыгожая праўда пра мастакоў і паэтаў Мінска!

**– Як нам сёння не згубіцца ў Мінску “праспектаў” і знайсці свае карані?**

– Болей чытаць! Ёсць ужо цэлая бібліятэка выдатных тэкстаў пра Мінск! І, натуральна, вывучаць гэты горад па творах мастацтва, старасвецкага і сучаснага! Так, шмат чаго было знішчана, багата чаго не ацалела ў рэчаіснасці, але засталося менавіта ў мастацтве!

**– У мінчукоў павінна быць добрая памяць ці фантазія?**

– Памяць без фантазіі – што усё адно што ветразь без ветру! Каб рухацца наперад, асэнсоўваць веды, і карыстацца імі, трэба быць суўдзельнікам, сутворцам! Ці, прынамсі, актыўным карыстальнікам таго, што ўжо стварылі мастакі і паэты – набываць кнігі і чытаць іх удумліва, спяваць у голас, глядзець і асэнсоўваць творы мастацтва, запамінаць іх і шанаваць шчыра тых, хто іх стварыў! Для каго? Для нас!

**– Вы ставілі перад сабой пэўныя задачы і мэты гэтым творам? Ці можаце вы сказаць, што яны былі дасягнуты?**

– Пра гэта ўсё, пра мэты і задачы, я напісаў у сваёй кнізе, прадмову да якое, дарэчы, напісаў мой калега, пісьменнік і мастацтвазнаўца Віктар Марціновіч, адзін з нашых выкладчыкаў. Пастаўленыя перад сабою задачы, збольшага, выканаў.

Што да мэты, да таго, што дасягнута, то мы гэта спраўдзім праз пэўны час, калі кніга, нарэшце, дойдзе да чытачоў і яны яе прачытаюць!

**Ангеліна Браніцкая, be.ehu.lt**

# ПРЭЗІДЭНТКА ЕЎРАПАРЛАМЕНТУ І ЦІХАНОЎСКАЯ АПУБЛІКАВАЛІ СУМЕСНЫ АРТЫКУЛ ДА ДНЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

Да Дня правоў чалавека ў медыях розных краін прэзідэнтка Еўрапарламенту Рабэрта Мецала і беларуская лідарка дэмакратычных сілаў Святлана Ціханоўская апублікавалі сумесны артыкул. Артыкул апублікавалі Le Monde (Францыя), The Journal (Ірландыя), Postimees (Эстонія) і літоўскі 15 min (Літва).

У артыкуле, у прыватнасці, гаворыцца, што “ў сваёй ціхай барацьбе за свабоду і дэмакратыю народ Беларусі ўяўляе сабой маяк мужнасці і стойкасці. Нягледзячы на дзесяцігоддзі аўтарытарнага кіравання і сістэматычных рэпрэсій, яны нястомна імкнуцца да свабоды. Гэта бітва, пра якую нельга забываць, асабліва ў гэты момант глабальнай нестабільнасці”.



На думку дзвюх аўтарак, народу Беларусі “ўпарта адмаўляюць” у базавых каштоўнасцях: павазе да чалавечай годнасці і правоў, свабоды, дэмакратыі, роўнасці і вяршэнства права. У заканчэнні артыкулу Рабэрта Метцала і Святлана Ціханоўская адзначаюць, што палітыкам і грамадзянам краін Еўрасаюза “вельмі важна разумець, што Еўропа ніколі не зможа рэалізаваць увесь свой патэнцыял, пакуль Беларусь застаецца пад дыктатурай”.

**racyja.com**

**навіны**

# ВАРШАЎСКІ ЎНІВЕРСІТЭТ УЗНАГАРОДЗІЎ ДАСЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ, У ТЫМ ЛІКУ, ПАСМЯРОТНА ЗМІТРА САЎКУ

Сёлета журы Конкурсу імя Сматрыцкага прысудзіла спецыяльную ўзнагароду за заслугі ў развіцці і кадыфікацыі беларускай мовы. Пасмяротна была ацэнена дзейнасць філолага Змітра Саўкі.



У панядзелак, 4 снежня, на Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэту адбылася ўрачыстая цырымонія ўручэння навуковай Узнагароды імя Мялеція Сматрыцкага ў абшары беларускай і ўкраінскай культуры. На асаблівы статус узнагароды ўказвае, сярод іншага, патранат рэктара Варшаўскага ўніверсітэту.

Журы конкурсу вылучыла манаграфію “Лексіка беларускіх гаворак Літвы. Моўная спадчына балта-славянскага памежжа” аўтарства супрацоўніка Славянскага інстытута АН Чэхіі, польскага беларусіста Мірослава Янковяка, падкрэсліўшы надзвычайнае значэнне гэтай работы ў кантэксце філалагічных даследаванняў славяна-балцкага памежжа.

Сярод украінскіх даследчыкаў вылучана прафесар Валянціна Собаль, за працу: “Піліп Орлік (1672–1742) і яго “Дзённік”, Выдавецтва Варшаўскага ўніверсітэту. У сваім абгрунтаванне журы адзначыла, што дзякуючы гэтаму першаму польскаму выданню “Дзённіка” Піліпа Орліка – казацкага гетмана, пераемніка Івана Мазепы, можнаназіраць культурнае кола гетмана, прасачыць яго шлях у змаганні за свабоду Украіны.

Сёлета журы Конкурсу імя Сматрыцкага прысудзіла спецыяльную ўзнагарода за заслугі ў развіцці і кадыфікацыі беларускай мовы. Пасмяротна была ацэнена дзейнасць філолага Змітра Саўкі, якая выявілася, між іншым, у рабоце “Фанетычная і графічная адаптацыя запазычанняў у беларускай мове”. Адметна, што Зміцер Саўка працаваў над гэтай манаграфіяй пад навуковым кіраўніцтвам прафесаркі Ніны Баршчэўскай. На жаль, хвароба абарвала жыццё даследчыка. У памяць пра Змітра Саўку і дзеля папулярызацыі яго навуковых дасягненняў прафесарка Баршчэўская разам з прафесарам Радаславам Калетам адрэдагавалі манаграфію, якая выйшла на Кафедры беларускай філалогіі.

Член журы конркусу, прафесарка Варшаўскага ўніверсітэту Ёана Гетка распавяла Беларускай службе Польскага радыё для замежжа пра значэнне ўзнагароды, а таксама пра важнасць міжкультурнага і навуковага дыялогу сярод народаў Усходняй Еўропы.

эж, polskieradio.pl

# СТО ТРЭЦІЯ ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ Ў НЬЮ ЁРКУ

Трэцяга сьнежня беларусы Нью Ёрку сабраліся ў кафедральным саборы імя св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне каб адзначыць адразу некалькі падзеяў.



У 11:30 раніцы ў царкоўнай зале сабору адбылася паніхіда па выбітным дзеячу беларускай паваеннай эміграцыі – Вітаўту Кіпелю. Імпрэза адбылося роўна праз год з дня, калі спадар Кіпель пайшоў з жыцця.

Потым прысутныя спусціліся ў грамадскую залю на адзначэнне гадавіны Слуцкага збройнага чыну.

Намеснік старшыні ньюёркскага аддзела Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Міхаіл Чаропка распачаў падзею. Прысутныя заслухалі віншаванні Старшыні Рады БНР спадарыні Івонкі Сурвілы і адзначылі выключную ролю ў гісторыі Беларусі ваеннага выступу беларусаў супраць бальшавіцкай навалы ў 1920-м годзе.

Пасля перад беларусамі Нью-Ёрку выступіла прадстаўніца офісу мэра горада Ягая Санчэс. Спадарыня Санчэс прадстаўляе дэпартамент па справах эмігрантаў і яна ў падрабязнасцях распавяла прысутным пра ўсе правы і магчымасці, якія Нью-Ёрк дае эмігрантам. Таксама яна раздала падрабязныя буклеты з інфармацыяй, а на ўваходзе ў грамадскую залу сабору з’явіўся адмысловы інфастэнд.

Наступным быў кароткі перапынак, пасля якога са словамі памяці пра Вітаўта Кіпеля, а таксама пра сваю новую кнігу выступіла Наталля Гардзіенка.

Далей слова ўзяла адказны рэдактар газеты “Беларус” спадарыня Ганна Сурмач. Яна таксама ўспомніла Вітаўта Кіпеля і расказала пра гадавы нумар газеты, які выйшаў гэтай восенню. У выданні сабраныя матэрыялы за апошнія паўтара года. Газета па-ранейшаму адлюстроўвае жыццё і думкі беларусаў у ЗША.

З завяршальнай прамовай і словамі ўдзячнасці выступіў Міхаіл Чаропка. Ён адзначыў усіх, хто прыклаў свае намаганні да выхаду ў свет чарговага нумара газеты і заахвоціў новых аўтараў далучацца да працы.

bielarus.info

навіны

# Ціханоўская ў Кангрэсе ЗША: заклікаем ЗША падтрымаць намаганні па захаванні незалежнасці і аднаўленні дэмакратыі ў Беларусі

5 снежня ў Падкамітэце па Еўропе Камітэта па замежных справах Палаты прадстаўнікоў Кангрэса ЗША прайшлі слуханні па Беларусі. Асноўным спікерам была Святлана Ціханоўская.




Ціханоўская агучыла шэраг практычных прапаноў для падтрымкі дэмакратычнай Беларусі: прызначыць спецпасланніка ЗША для працы з дэмакратычнымі сіламі, дадаць Беларусь у план эканамічнага аднаўлення – і пашырыць праект яшчэ і на нашу краіну (зараз ён тычыцца Украіны і Малдовы), падтрымаць праект новага беларускага нацыянальнага пашпарту, прыцягнуць Лукашэнку і яго памагатых да адказнасці праз міжнародныя суды.

“Мы вітаем беспрэцэдэнтнае рашэнне Дзяржаўнага дэпартамента ЗША распачаць Стратэгічны дыялог з беларускімі дэмакратычнымі сіламі.

Мы заклікаем ЗША падтрымаць нашыя намаганні па захаванні незалежнасці і аднаўленні дэмакратыі ў нашай краіне. Прызначэнне спецпасланніка ЗША павінна паспрыяць стварэнню кааліцыі ў падтрымку незалежнай дэмакратычнай Беларусі.

Беларусь не павінна стаць суцяшальным прызам для Расіі. Свабода ў Беларусі ўдарыць па Пуціне мацней за любыя санкцыі і дапаможа Украіне перамагчы ў вайне. Таму падтрымка свабоднай Беларусі – гэта не дабрачыннасць. Гэта вашыя інвестыцыі ў мір і бяспеку на ўсёй планеце”.

Пасля прамовы ў кангрэсоўцаў быў час задаваць пытанні. У асноўным яны тычыліся ўдакладненняў сітуацыі ў Беларусі, таксама пыталі і пра тое, як звязаныя з Ціханоўскай структуры бачаць далейшае супрацоўніцтва з ЗША і якую менавіта дапамогу патрабуюць.

Прадстаўнікі ад ЗША выказалі разуменне сітуацыі ў Беларусі. Таксама гучалі і словы падтрымкі. У заключэнне амерыканскія кангрэсмены адзначылі, што размова са Святланай Ціханоўскай была для іх цікавай і натхняльнай.

**radiounet.fm**

# Беларускія Каляды ў Манрэалі

Беларускі фальклорны гурт “Яваровы Людзі” і Згуртаванне Беларусаў Канады выказваюць падзяку ўсім, хто наведаў канцэрт “Беларускія Каляды” ў Манрэалі.

Мерапрыемства стала незабыўным святам. Дзень быў напоўнены вясёлымі песнямі, святочнымі гульнямі, абменам падарункамі, заваражваючы кожнае імгненне цудамі Калядаў.

**belarusians.ca**



**навіны**

# ДАБРАЧЫННЫ ФОНД "ВІЛЬНА БІЛОРУСЬ" УЗЯЎ УДЗЕЛ У ВАЛАНЦЁРСКАЙ ПРЭМІІ 2023

Дабрачынны фонд "Вільна Білорусь" паўдзельнічаў у цырымоніі святкавання дзясятай валанцёрскай прэміі "Ад дзясяткаў да мільёнаў", ад ініцыятывы "Еўрамайдан SOS" у Кіеве.




Кажа арганізатар, кіраўнік дабрачыннага фонду "Вільна Білорусь" Аляксей Францкевіч:

– Сёлета адмовіліся ад узнагарод таму, што пасля поўнамаштабнага ўварвання Расейскай Федэрацыі на тэрыторыю Украіны, амаль уся Украіна стала валанцёрыць. Кожны робіць незвычайныя справы. Сабралі валанцёраў, партнёраў, журналістаў разам, каб у Дзень валанцёра адно аднаму сказаць "дзякуй", адзначыць і сустрэць гэты дзень.

Валанцёрская прэмія – усеўкраінская недзяржаўная непалітычная прэмія, якая з 2014 года ўручаецца "звычайным людзям, якія робяць незвычайныя рэчы" за асаблівы ўнёсак у развіццё валанцёрскага руху ва Украіне.

**racyja.com**

# АБФ у Грузіі: ПРАЦУЕМ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ РОЗНАГА ЎЗРОСТУ

Арганізацыя "Актыўным быць файна" працуе ў грузінскім Батумі ўжо два гады.

Паводле слоў каардынатаркі Вольгі, людзі, што ладзяць гурткі, могуць быць як "грузінскія старажылы", так і тыя, што прыехалі нядаўна.

– Людзі, якія жывуць тут доўга, якія яшчэ да вайны прыехалі. Ёсць людзі, якія толькі нядаўна прыехалі, месяц, ці нават усяго некалькі дзён таму. Людзі прыязджаюць і кажуць: я хачу распачаць гурток. Гэта вельмі здзіўляе і гэта вельмі прыемна, таму што гэта добрая адаптацыя ў новай краіне.

Паводле слоў Вольгі, раней апроч гурткоў для дарослых праходзілі і гурткі для дзетак:

– У нас раней былі гурткі для дзяцей, іх было вельмі шмат, таму што ў нас была лідарка, якая вяла. Мы ж самі нічога не распачынаем. Распачынаюць людзі, таму што нашая ініцыятыва так і называецца "Актыўным быць файна". Не ведаем, які будзе гуртом загадзя, толькі прыходзіць чалавек і кажа: я хачу весці гурткі. А пакуль дзяцей у нас няма, стаіць палічка з цацкамі, а дзяцей няма.

Арганізацыя да выезду ў Грузію была прадстаўлена ініцыятывамі ў розных гарадах ў Беларусі, а цяпер падобныя арганізацыі з беларускіх прадстаўнікоў актыўна працуюць не толькі ў Грузіі, а таксама ў Польшчы, Літве, Малдове і іншых краінах.

**racyja.com**

**in memoriam**

# ЗАГІНУЛА БЫЛАЯ РЭДАКТАРКА ШМАТЛІКІХ БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ МАРЫНА БІРУКОВА

У Варшаве загінула Марына Бірукова, былая рэдактарка і менеджарка шматлікіх беларускіх выданняў (часопіс "Большой", выдавецтва "Нестар – Мінск") і інш. Пра гэта паведаміў на сваёй старонцы ў фэйсбуку Максім Швед.

"Востры розум і добрае сэрца ў адным чалавеку – сапраўднае багацце, якое сустракаецца не кожны дзень. Марына Бірукова была такім чалавекам. Хоць я і быў колькі разоў у тым шпіталі і трымаў паперу з новым польскім словам "zgon", паверыць, што яе, маладой і прыгожай, больш няма з намі не магчыма.

Марына вярнулася дадому, але…

Яшчэ адзін кашмарны напамін, што жыццё – гэта цуд, які адбяруць, часам вельмі нечакана. Абдымаю сваякоў і сяброў, якія сёння развітваюцца з Марынай", – напісаў на сваёй старонцы ў фэйсбуку Максім Шведзь.

**budzma.org**

**Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім спадарыні Марыны Біруковай, а таксама ўсім, хто яе ведаў.**



## Беларускі каляндар памятных дат на студзень 2024 года

**2 студзеня**
- 160 гадоў таму, у 1864-м, павешаны Ігнат Здановіч і Мечыслаў Дарманоўскі, удзельнікі кіраўніцтва вызваленчага паўстання 1863–1864 гг.

**3 студзеня**
- 80 гадоў таму, у 1944-м, нарадзіўся Міхась Раманюк, мастак, матацтвазнавец, этнограф. Памёр у 1997-м.

**6 студзеня**
- 110 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Тодар Лебяда (сапр. Пятро Шырокаў), пісьменнік. Памёр у 1970-м.
- 20 гадоў таму, у 2004-м, памёр Янка Юхнавец, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**7 студзеня**
- Каляды (Раство Хрыстова) па праваслаўным (юльянскім) календары
- 60 гадоў таму, у 1964-м, памёр Янка Журба (сапр. Івашын), паэт.

**8 студзеня**
- 130 гадоў таму, у 1894-м, нарадзіўся Максіміліян Кольбэ, святы каталіцкай царквы. Забіты ў 1941-м.

**10 студзеня**
- 75 гадоў таму, у 1949-м, загінуў Міхаіл Сазыка, спявак, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне.

**11 студзеня**
- 160 гадоў таму, у 1864-м, расстраляны Цітус Далеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

**14 студзеня**
- 130 гадоў таму, у 1894-м, нарадзіўся Пётр Юргелевіч, мовазнавец. Памёр у 1973-м.

**15 студзеня**
- 30 гадоў таму, у 1994-м, памёр Генадзь Каханоўскі, гісторык, літаратуразнавец.

**17 студзеня**
- 120 гадоў таму, у 1904-м, нарадзіўся Алесь Якімовіч, пісьменнік. Памер у 1979-м.
- 20 гадоў таму, у 2004-м, памёр Віталь Кажан, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**23 студзеня**
- 30 гадоў таму, у 1994-м, памёр Янка Ролсан (сапр. Гадзіцкі), паэт, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі

**24 студзеня**
- 120 гадоў таму, у 1904-м, нарадзіўся Янка Шутовіч, выдавец, літаратуразнавец. Памёр у 1973-м.

**26 студзеня**
- 150 гадоў таму, у 1874-м, у Пратуліне расійскія войскі забілі сялянаў-уніятаў. 13 пакутнікаў былі беатыфікаваны.
- 30 гадоў таму, у 1994-м, памёр Алесь Адамовіч, пісьменнік.

**29 студзеня**
- 140 гадоў таму, у 1884-м, нарадзіўся Антон Луцкевіч, гісторык, старшыня ўрада БНР.

**Беларусы ў свеце**
№ 12 (259), снежань 2023
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com